Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка
№44 снежань 2014

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## З Калядамі і Новым годам!!!



*Дарагія сябры, вясёлых вам святаў і шчаслівага новага году!*

*2015-ты не абяцае быць лёгкім. Але нават у тых складаных умовах, якія чакаюцца ў наступным годзе, жадаем усім не губляць аптымізму і актыўнасці, гаварыць і рабіць тое, што палепшыць нашае жыццё, бараніць свае правы і незалежнасць Беларусі! І няхай галоўным крытэрам у нашых справах, нашых дзеях будзе жаданне мець справядлівае грамадства, жаданне дабівацца гэтай справядлівасці. Мабыць, гэта і ёсць асноўная мэта, якая можа забяспечыць нармальнае далейшае жыццё для беларускага народу.*

*Праваабарончы цэнтр "Вясна"*

## Штрафы журналісту Андрэю Мялешку ўсё растуць



2 снежня да чарговага штрафу паводле артыкулу Адміністрацыйнага кодэксу 22.9, частка 2 (незаконны выраб і распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі) быў засуджаны гарадзенскі журналіст-фрылансер Андрэй Мялешка. Паводле пастановы суддзі Ленінскага раённага суду Юрыя Казакевіча ён аштрафаваны на 40 базавых велічынь, што складае 6 мільёнаў беларускіх рублёў.

16 кастрычніка бягучага году Андрэй Мялешка ў абласной бібліятэцы імя Карскага на прэзентацыі гістарычных выданняў запісаў кароткі каментар аднаго з аўтараў кніжкі – прафесара Гарадзенскага ўніверсітэту імя Янкі Купалы Валерыя Чарапіцы. Пазней аўдыёфрагмент з гэтай, а магчыма іншай размовы, быў змешчаны на сайце Беларускага Радыё Рацыя. Ленінскі РАУС пачаў па гэтым факце ў дачыненні Мялешкі адміністрацыйную справу. На судовым працэсе першым сведкам выступаў загадчык кафедры славянскіх дзяржаваў Валерый Чарапіца, які пацвердзіў факт таго, што ён даваў каментар Мялешку. Іншая ж сведка – Тамара Піваврчык зусім заблыталася ў сваіх паказаннях. Так, у пратаколе апытання, складзеным міліцыяй, яна сцвярджала, што дакладна бачыла, як Мялешка браў інтэрв'ю ў Чарапіцы. На працэсе ж сцвярджала зусім адваротнае, а на пытанні суддзі не магла выразна сфармуляваць свае адказы. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што Піваварчык Тамара Анатолеўна ўзначальвае кафедру журналістыкі Гарадзенскага купалаўскага ўніверсітэту.

У выніку разгляду справы, якая доўжылася менш паўтары гадзіны з перапынкам, суддзя Юрый Казакевіч, нягледзячы на адсутнасць доказаў віны Андрэя Мялешкі і неадпаведнасць адміністрацыйнага артыкулу сутнасці сітуацыі, прызнаў журналіста вінаватым і пакараў яго вялікім штрафам. Раней, 4 красавіка бягучага году, гэты ж суддзя асудзіў па тым жа артыкуле на 30 базавых штрафу іншага гарадзенскага журналіста-фрылансера – Алеся Дзянісава.

Пераслед незалежных журналістаў на Гарадзеншчыне працягваецца. Чарговая справу пачаў Слонімскі РАУС у дачыненні да журналіста Алеся Залеўскага.

## Працягваецца Сьвіслацкая судовая "эпапея"

На Гарадзеншчыне працягваецца судовая "эпапея" з удзелам грамадскіх актывістаў, якія прысутнічалі ў Сьвіслачы 26 кастрычніка на дні памяці паўстанцаў 1863 году. Сёння, 8 снежня, у райцэнтры Сьвіслач пройдзе адміністрацыйны працэс над сябрам АГП Уладзімірам Пруднікавым. Атрымалі позвы ў Сьвіслач на розныя дні і іншыя прадстаўнікі гэтай партыі – Аляксандра Васілевіч і Віктар Бабкін. Васілевіч даслала ў Сьвіслач хадайніцтва з прапановай аб'яднаць гэтыя справы ў адну і разгледзець іх у адзін дзень. Старшыня гарадзенскай гарадской арганізацыі партыі БНФ Вадзім Саранчукоў атрымаў са Сьвіслачы афіцыйнае пісьмовае паведамленне пра тое, што складзены на яго пратакол за ўдзел у нібыта несанкцыянаваным мерапрыемстве, адпраўлены на дапрацоўку.



Тым часам аштрафаваныя раней за прысутнасць на Дні памяці ў Сьвіслачы і Якушоўцы падаюць касацыйныя скаргі на абсурдныя пастановы раённых судоў. Разгляд скаргі сьвіслацкага грамадскага актывіста Юрыя Глебіка пройдзе ў абласным судзе 18-га снежня. Падалі аналагічныя скаргі журналіст Міхал Карневіч, публіцыст і праваабаронца Уладзімір Хільмановіч, актывісты АГП Ежы Грыгенча і Віталь Лопасаў.

Сваю сітуацыю каментуе журналіст Радыё Свабода Міхал Карневіч: "Абскарджваю пастанову таму, што ня згодны з рашэннем суддзі Алены Пятровай. Паколькі ў Сьвіслачы прысутнічаў, як журналіст і выконваў свае службовыя абавязкі – рыхтаваў матэрыял. Дзеля гэтага маю акрэдытацыйнае пасведчанне, а таму, як журналіст, згодна з законамі Рэспублікі Беларусь маю права знаходзіцца ў месцах як санкцыянаваных, так і несанкцыянаваных акцый. Усе дакументы, якія сведчаць пра тое, што я выконваў службовыя абавязкі ў час акцыі ў Сьвіслачы, суду прадставіў..."

# Трэці Рым і паніка

***Наш універсітэцкі выкладчык гісторыі старажытнага Рыму чытаў нам лекцыі па-расейску з моцна беларускім акцэнтам і гэткімі выразнымі сечанымі фразамі: "Мужчыны дрэўнега Рыму трэбавалі хлеба і зрэлішч", "Жэншчыны дрэўнега Рыму таргавалі сваім целам", "Рым ахваціла паніка!". Успомніліся мне гэтыя фразы ў звязку з той сітуацыяй, якая склалася апошнім тыднямі ў сталіцы сучаснага "Трэцяга Рыму" – Маскве. Санкцыі, якія увялі Злучаныя Штаты Амерыкі і Еўразвяз у адказ на брутальную агрэсію крамлёўскага рэжыму і анексію часткі суверэннай Украіны, запрацавалі. Многія называлі гэтыя санкцыі непаслядоўнымі, палавінчатымі і нават касметычнымі.***

Расейскія палітычныя саноўнікі толькі фыркалі і грэбліва крыва ўсміхаліся – маўляў, гэтыя захады нам як камарыны ўкус, гэта еўрапейскія дзяржавы зараз будуць пакутаваць на сур'ёзны гаспадарчы крызіс – іх санкцыі ім жа, заходнікам праклятым, бумерангам і вярнуцца. Канчаткова звар'яцелыя ад шавінізму і імперскай пыхі розныя расейскія палітыкі, усялякія думцы і псеўдааналітыкі захлыналіся слінай і ачмурэла далей вярзлі свае мантры пра "вялікую Расею" і татальна варожы да яе свет. У адрозненне ад іх расейскія эканамісты, тыя, якія з ліку дасведчаных, выказваліся наконт санкцый стрымана і насцярожана. Але ніхто нават з іх ня змог і блізка прагназаваць такі імклівы абвал расейскага рубля, які здарыўся за апошні тыдзень. Выявілася, што ўведзеныя санкцыі і сусветнае паніжэнне кошту на нафту ў надзвычай глабалізаваным свеце вельмі хутка і вельмі істотна могуць уплываць на эканоміку такой дзяржавы, як цяперашняя Расейская федэрацыя. Некаторым ужо пачынае даходзіць, што каб быць магутнай эканамічна дзяржавай, зусім недастаткова мець вялізныя багатыя радовішчы газу і нафты. Патрэбная яшчэ і мадэрнізацыя гаспадаркі, што ў Расеі і не збіраліся рабіць. Але, зрэшты, не настолькі слабая гэтая расейская эканоміка, не яна галоўная і вызначальная. У гэтай дзяржаве найбольш слабое месца – гэта ідэалогія. Бо яе асноўная ідэалогія, прыхаваная прыгожымі слоўцамі пра "рускі мір", "славянскае братэрства" і іншымі эўфемізмамі, адна – захоп чужых зямель і паняволенне новых народаў. А гэта азначае непазбежна толькі вайну як уяўны сродак развязання ўсіх праблемаў. Найбольш адукаваныя і разумныя людзі ў Расеі, бачачы ў які тупік ідзе гэтая краіна, папросту выязджаюць з яе. Так за апошні год яе пакінула каля 250 тысяч чалавек.



Вельмі шкада, што гэтыя эканамічныя санкцыі Захаду прыйшлі так позна. Іх уводзіць трэба было яшчэ ў пачатку другой чачэнскай вайны – у 1999-ым альбо 2000-ым годзе. Менавіта тады на вачах адносна ліберальны ельцынаўскі рэжым мяняўся на прынцыпова іншы. Але спатрэбіліся дзесяткі тысяч ахвяраў у Ічкерыі з абодвух бакоў, анексія часткі Грузіі, захоп Крыму і стварэнне бандыцкіх тэрарыстычных анклаваў на тэрыторыі Украіны, пакуль партнёры Крамля хоць нешта зразумелі.

Ці абудзіць такая "шокавая тэрапія" расейскае грамадства, якое зараз пачне прыкметна, а можа нават імкліва беднець – цяжка сказаць. Тое, што значная частка расейцаў ня зможа паехаць на калядныя вакацыі на альпійскія курорты Швайцарыі ды Аўстрыі, а ў новым годзе на Маўрыцый ці Мальёрку, наўрад ці ацвярэзіць гэтае грамадства. Пятнаццаць гадоў гэтае грамадства заплывала ксенафобіяй, шавінізмам і тлушчам. Пятнаццаць гадоў яно "гандлявала сваім целам" і патрабавала хлеба і відовішчаў. Так што наўрад ці надыдзе хуткае ацверазенне. Хутчэй наадварот, нянавісць будзе расці. Ідэальны канешне варыянт, што крамлёўскі рэжым хутка пасыплецца разам са сваімі філіямі. Прыймальнае развіццё сітуацыі – калі крызіс пяройдзе ў стагнацыю і застой узору сямідзесятых-пачатку васьмідзесятых гадоў часу Савецкага саюзу. Але найбольш верагодны сцэнар той, што Масква будзе далей шукаць і кляйміць уяўных ворагаў, імкнуцца перавесці кангламерат нацыянальных, сацыяльных, эканамічных супярэчнасцяў сваёй няўстойлівай федэрацыі, пагрозу грамадзянскай вайны ў знешнюю вайну.

А пакуль "Трэці Рым" ахапіла валютная паніка…

***Уладзімір Хільмановіч***

# Хроніка правапарушэнняў

## (Гарадзеншчына, кастрычнік - снежань)

## Адміністрацыйныя пераследы

### Кастрычнік

**2 кастрычніка** ў Гародні міліцыяй быў затрыманы грамадска-палітычны актывіст Ежы Грыгенча. Як удзельнік кампаніі “Гавару праўду” ён збіраў подпісы грамадзянаў за пытанні Народнага рэферэндуму. Аднаму з жыхароў, да каго ў кватэру завітаў Грыгенча, падпісныя лісты падаліся падазронымі і той выклікаў міліцыю. Актывіста затрымалі і праз 3 гадзіны адпусцілі. Пазней быў складзены пратакол пра адміністрацыйнае правапарушэнне, а Грыгенча аштрафаваны.

**7 кастрычніка** ў Гародні ў раённым судзе працягнуўся разгляд адміністрацыйнай справы журналіста-фрылансера Андрэя Мялешкі. Суддзя Ганна Лявусік не ўзяла пад увагу ні парушэнні і юрыдычную непісьменнасць з боку міліцыі, ні поўную адсутнасць доказаў віны Андрэя Мялешкі, ні неадпаведнасць адміністрацыйнага артыкулу сутнасці рэчаў і пакарала незалежнага журналіста адміністрацыйным штрафам – 35 базавых велічыняў

Гарадзенскія незалежныя журналісты напісалі адкрыты зварот да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Аляксандра Канюка. У ім сябры Беларускай Асацыяцыі журналістаў звярнулі ўвагу на сістэмны незаконны пераслед журналістаў-фрылансераў з боку міліцыі і судовай сістэмы. Два дзесяткі журналістаў патрабуюць, каб адміністрацыйны пераслед журналістаў за прафесійную дзейнасць быў спынены.

23 кастрычніка ў Гародні ўладамі была сарваная прэзентацыя пісьменніка Віктара Марціновіча – яго новага раману “Мова”. Прэзентацыя была наладжана ў Парафіяльным цэнтры парафіі Маці Божай Фацімскай. У выніку былі складзены пратаколы апытанняў на грэка-каталіцкага святара айца Андрэя Крата, на Міраслава Лазоўскага, прадстаўніка выдавецтва “Беларускі кнігазбор” і на Віктара Марціновіча.

**Кастрычнік.** Гарадзенскія журналісты дачакаліся адказаў з абедзвюх пракуратураў, куды дасылалі свой зварот. Два дзесяткі гарадзенскіх сябраў БАЖ высылалі лісты ў Генеральную і Гарадзенскую абласную пракуратуры, у якіх звярталі ўвагу на недапушчальнасць пераследу журналістаў-фрылансераў за прафесійную дзейнасць. У адказе Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь за подпісам яе прадстаўніцы Марыі Паповай, начальніка аддзелу па нагляду за захаваннем правоў і свабод грамадзянаў прапаноўваецца тым журналістам, якія былі аштрафаваныя, самастойна звяртацца паводле заканадаўства ў пракуратуру і суды вышэйшай інстанцыі. У афіцыйным адказе з абласной пракуратуры за подпісам намесніка пракурора вобласці Святланы Рахман практычна дублюецца адказ Генеральнай пракуратуры. Гарадзенскія сябры БАЖ расцэньваюць такія адказы як фактычнае ухіленне пракуратураў ад забеспячэння іх права на прафесійную журналісцкую дзейнасць.

**31 кастрычніка.** Разгляд касацыйнай скаргі журналіста-фрылансера Андрэя Мялешкі ў Гарадзенскім абласным судзе скончыўся прадказальна. Нягледзячы на ўсе довады аштрафаванага і аргументы ягонага адваката, суддзя Святлана Даўгашэй падтрымала рашэнне Гарадзенскага раённага суду.

### Лістапад

**1 лістапада** да сьвіслацкага грамадскага актывіста Юрыя Глебіка завіталі прадстаўнікі міліцыі. Яны паведамілі, што ў дачыненні да яго складзены пратакол за нібыта здзейсненае адміністрацыйнае правапарушэнне. Гутарка ішла пра 26 кастрычніка бягучага году, калі ў Сьвіслачы адбыўся традыцыйны штогадовы Дзень памяці паўстанцаў 1863 году.

Ваўкавыскі грамадскі актывіст Віталь Гуляк атрымаў на сваю касацыйную скаргу па адміністрацыйнай справе фармальны адказ з Вярхоўнага Суду Рэспублікі Беларусь. Афіцыйны адказ падпісаны намеснікам Старшыні Вярхоўнага Суду Валерыем Калінковічам. Вярхоўны Суд не ўзяў пад увагу аргументы скаргі і лічыць, што Віталь Гуляк быў аштрафаваны ў адпаведнасці з дзейсным заканадаўствам.

**4 лістапада** Гарадзенскі абласны суд адмовіў у задавальненьні скаргі заснавальнікаў грамадзкага культурна-асьветніцкага аб’яднаньня “Спадчына” на рашэньне Гарадзенскага ўпраўленьня юстыцыі пра адмову ў рэгістрацыі гэтай арганізацыі. Па словах сябры Рады “Спадчыны” Сяргея Трафімчыка, які прадстаўляў інтарэсы заснавальнікаў у судзе, падставы для адмовы ў рэгістрацыі аб’яднаньня палягалі ў прэтэнзіях да юрыдычнага адраса і аплаты дзяржаўнай пошліны.

**11 лістапада** вядомы ў Гародні па многіх “палітычных” адміністрацыйных справах маёр Алег Кока завітаў да грамадскай актывісткі Вольгі Крапоцінай і прынёс ёй разам з вынікам экспертызы забраных раней улётак пратакол пра нібыта здзейсненае правапарушэнне паводле артыкулу 22.9 Адміністрацыйнага кодэксу. Крапоціну вінавацяць у незаконным вырабе і распаўсюдзе друкаванай прадукцыі.

**18 лістапада** ў Ленінскім раённым судзе Гародні адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы гарадзенкі Вольга Крапоціну, яка была затрыманая яшчэ 19 верасня з улёткамі ў падтрымку Украіны. Суддзя Дзмітрый Бубенчык за нібыта “неазаконны выраб і распаўсюд друкаванай прадукцыі” прадказальна аштрафаваў грамадскую актывістку на 30 базавых велічынь – 4 мільёны 500 тысяч.

Сьвіслацкі актывіст Юрый Глебік аштрафаваны раённым судом за ўдзел у традыцыйным Дні

# Хроніка правапарушэнняў

## (Гарадзеншчына, кастрычнік - снежань)

## Адміністрацыйныя пераследы

памяці паўстанцаў 1863 году, што праходзіць штогод у Сьвіслачы. За ўдзел нібыта ў "несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве" Глебіка аштрафавалі на 10 базавых велічынь.

**25 лістапада** ў Гародні прайшлі адміністрацыйныя працэсы ў дачыненні да чатырох чалавек, якія прысутнічалі ў Сьвіслачы 26 кастрычніка на традыцыйным Дні памяці паўстанцаў 1863 году. Суддзя Алена Пятрова за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве аштрафавала публіцыста і праваабаронца Уладзіміра Хільмановіча і актывіста партыі АГП Ежы Грыгенчу на 35 базавых велічынь (што на сёння складае ў эквіваленце 5 мільёнаў 250 тысяч беларускіх рублёў) кожнага, а журналіста Радыё Свабода Міхаіла Карневіча і актывіста партыі АГП Віталя Лопасава на 15 базавых велічынь кожнага (па 2 мільёны 250 тысяч).

### Сьнежань

**2 снежня** да чарговага штрафу паводле артыкулу Адміністрацыйнага кодэксу 22.9, частка 2 (незаконны выраб і распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі) быў засуджаны гарадзенскі журналіст-фрылансер Андрэй Мялешка. Паводле пастановы суддзі Ленінскага раённага суду Юрыя Казакевіча ён аштрафаваны на 40 базавых велічынь, што складае 6 мільёнаў беларускіх рублёў.

**4 снежня** яшчэ адзін прысутны на Дні памяці паўстанцаў 1863 году, што прайшоў 26 кастрычніка бягучага году ў Свіслачы і Якушоўцы, Віталь Гуляк быў аштрафаваны за нібыта "удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве". Суддзя Ваўкавыскага раённага суду Юрый Якімовіч пакараў яго штрафам у памеры 20 базавых велічынь.

**8 снежня** Сьвіслацкі раённы суд аштрафаваў сябра АГП Уладзіміра Пруднікава на 10 базавых велічынь за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве ў Сьвіслачы **26 кастрычніка** бягучага году. Адміністрацыйны працэс, які доўжыўся каля гадзіны, вёў старшыня Сьвіслацкага раённага суду Аляксандр Шылін. ¨н ведамы тым, што ў 2012 годзе засудзіў некалькіх удзельнікаў традыцыйнага Дня памяці паўстанцаў 1863 году да адміністрацыйнага арышту.

Праваабаронца, журналіст і публіцыст Уладзімір Хільмановіч падаў у Гарадзенскі абласны суд скаргу на рашэнне суда Ленінскага раёна Гародні, які **25 лістапада** аштрафаваў яго за "ўдзел у несанкцыянаванай акцыі" на 35 базавых велічыняў

Гарадзенскі журналіст-фрылансер Вітаўт Парфёненка пасля сёмай адмовы ў акрэдытацыі МЗС у якасці журналіста Беларускага Радыё Рацыя вырашыў дамагацца акрэдытацыі праз суд. Па словах журналіста, ён ужо спрабаваў некалькі разоў пісаць скаргі ў Міністэрства Замежных справаў, ва ўрад Беларусі на прадмет таго, што яго пазбаўляюць права на прафесію.

Сябра АГП Канстанцін Дзмітрыеў – чарговы аштрафаваны за ўдзел у Дні памяці ў Сьвіслачы. Сьвіслацкі раённы суд настаяў на яго прысутнасці ў час разгляду адміністрацыйнага пратакола – актывіст быў змушаны ехаць з Менску, дзе працуе, у раённы цэнтр Сьвіслач. У выніку разгляду адміністрацыйнай справы яго аштрафавалі на 10 базавых велічыняў – паўтары мільёны беларускіх рублёў.

Доктару гістарычных навук з Гарадзенскага дзяржуніверсітэта Святлане Куль-Сяльверставай не працягнулі кантракт з-за «малой публікатарскай дзейнасці». Хоць за апошнія пяць гадоў выходзіць чацвёртая ейная кніга. Працоўны кантракт завяршыўся **29-га снежня**. Прафесар Святлана Куль–Сяльверстава чытала ўнікальны для Беларусі курс беларускага скорапісу і беларускай гістарычнай храналогіі.

**16 снежня** ў Гарадзенскім абласным судзе прайшоў разгляд касацыйных скаргаў грамадскай актывісткі Вольгі Крапоцінай і праваабаронца і публіцыста Уладзіміра Хільмановіча. Суддзі А. Козел і Мікалай Рачынскі не задаволілі гэтыя скаргі.

**16 снежня** ў Сьвіслачы старшыня мясцовага раённага суду Аляксандр Шылін аштрафаваў Аляксандру Васілевіч, старшыню Гарадзенскай абласной арганізацыі партыі АГП на 25 базавых велічынь. Гэта ўжо адзінаццатая аштрафаваная за ўдзел у нібыта несанкцыянаваным мерапрыемстве, якое прайшло 26 кастрычніка ў Сьвіслачы і Якушоўцы.

**18 снежня** суддзя Гарадзенскага абласнога суду Мікалай Рачынскі не задаволіў касацыйную скаргу журналіста Міхала Карневіча. Сябра БАЖ аспрэчваў пастанову суддзі Ленінскага суду Алены Пятровай, якая фактычна засудзіла журналіста за выкананне службовых абавязкаў у Сьвіслачы і Якушоўцы **26 кастрычніка** ў Дзень памяці паўстанцаў 1863 году.

Прафесар Алесь Астроўскі – чарговы аштрафаваны за ўдзел ва ўшанаванні памяці паўстанцаў у Сьвіслачы. 15 базавых велічынь штрафу прысудзіла яму суддзя Ленінскага раённага суда Гародні Алена Пятрова. Алеся Астроўскага прызналі вінаватым паводле кодэксу пра адміністрацыйнае правапарушэнне, якое нібыта ён здзейсніў **26-га кастрычніка** на дзень памяці паўстанцаў.

**22 сьнежня** Гарадзенскага грамадскага актывіста Станіслава Рачкеля пратрымалі некалькі гадзін на ўездзе ў Беларусь. На пункце пропуску Брузгі маладзёну ўчынілі асабісты дагляд са складаннем пратаколу. Маладзён лічыць, што гэты агляд на мяжы быў зроблены адмыслова, каб аказаць на яго псіхалагічны ціск

# Палітычная чума

***Пра Беларусь здаецца забыліся. Прычым усе. І еўрапейцы, і амерыканцы і ўсе астатнія. Акрамя, канешне, расейцаў. Тыя пра нас заўсёды памятаюць. А для астатніх нібыта нас няма зусім. Ды і сапраўды, на фоне іншых падзеў у свеце Беларусь выглядае нейкім аазісам, або міражом, дзе падзеяў няма ўвогуле. Або амаль няма. Такі варыянцік нікому непатрэбнай Паўночнай Карэі, толькі без ядзернай зброі. Не было б у карэйцаў той зброі, то і пра іх забыліся б даўно. Як пра Кубу. Вось і “кубавалі” б мы ўтрох, не так сумна было б.***

Ну зноў распачалася нейкая там мясная вайна з Расеяй. Хіба ж гэта падзея? Традыцыйны для такіх выпадкаў звыш эмацыйны тэлевыступ кіраўніка беларускай дзяржавы хіба што гэтым разам страсянуў усяго толькі паветра, але не слухачоў. Ні сваіх, айчынных, ні іхных, таксама нібыта айчынных, калі ўсур’ёз успрымаць існаванне агульнай саюзнай беларуска-расейскай, ці расейска-беларускай дзяржавы (тут шмат хто блытаецца з назвай). На грозную інтанацыю беларускага начальніка міністар іншаземных спраў Расеі ціхім і спакойным голасам заявіў, што калі Расеі будзе патрэбна і яна гэта палічыць мэтазгодным, то Беларусь абавязкова далучыцца да расейскіх антысанкцыяў супраць шэрагу еўрапейскіх краін. І нікуды яна не дзенецца.

Вось і будуй пасля гэтага свае планы. Вядзі сваю палітыку. Спрабуй павялічыць гандаль з Польшчай ці Нямеччынай. Праводзь з імі перамовы пра інвестыцыі, крэдыты, агульны бізнэс… А расейцы скажуць “хватит”, і ўсё паляціць кату пад хвост у адно імгненне.

Вось такая ў нас саюзная дзяржава. Нібыта дзяржава, нібыта і назва ёсць, і структуры нейкія, дзе людзі працуюць, заробак атрымліваюць і пад вызначэнне “тунеядзец” не патрапляюць, а мяса з адной часткі гэтай дзяржавы ў другую яе частку вазіць нельга. А вось да антысанкцыяў далучацца мусіш. Свае аэрадромы для расейскіх самалётаў здаваць таксама мусіш. Мусіш выконваць свой саюзны абавязак па ўсіх кірунках, і як размова дойдзе да гэтага абавязку у сувязі з расейска-украінскім канфліктам, то страшна тады і падумаць якія варыянты прыйдзецца разглядаць. А можа такая размова ўжо пайшла? І ў расейскага боку на такіх перамовах вельмі дарэчы з’явіўся патрэбны саюзнік у выглядзе афрыканскай свінячай чумы, якая плаўна і перарасла ў чуму палітычную.




Беларускі кіраўнік напэўна выпрашыў трошкі паадбівацца ад навязлівых сяброў, або пагандлявацца з імі, ды крыху папалохаць дарагіх і любых саюзнікаў. ¨н гучным голасам, які ня церпіць непадпарадкавання, аддаў сваім міністрам загад імгненна знайсці новыя рынкі збыту. Тыя не пярэчылі. Моўчкі выслухалі і кінуліся выконваць. Але ўвесь гумар і адначасна абсурд сітуацыі акурат у тым, што гэты загад смела і рашуча кінуліся выконваць тыя самыя работнічкі, што таксама пад вызначэнне “тунеядзец” не падпадаюць, бо маюць добрыя заробкі, і якія за дваццаць год новых рынкаў знайсці так і не змаглі.

Але ж прадказаць далейшыя падзеі не так ужо і складана. Прыйдзецца расейцам аддаць тое, што яны загадаюць, і мяса зноў паедзе ў Расею. Нікуды яно не дзенецца. Вось табе і новыя рынкі. Расейцы ўсё з’ядуць. Ім вялікае войска карміць трэба. Каб вынікі ўкраінскіх рэформаў не выклікалі ў расейскіх салдат зайздрасці.

Ну а пра грозны тон заяў можна будзе забыцца. Лідары саюзнай дзяржавы хутка зноў будуць ветліва ўсміхацца адзін другому. Тут як кажуць беларусы, воран ворану вока не выдзеўбе. Ці як гавораць з іншага боку мяснога канфлікту расейцы: “милые бранятся – только тешатся”. Ім жа, па вялікім рахунку, сябраваць то больш няма з кім, выбар невялікі. І так будзе працягвацца ажно да наступнага разу, калі расейскаму кіраўніку зноў нешта спатрэбіцца ад беларусаў, і тады расейскія медыкі чарговы раз знойдуць афрыканскую чуму ў беларускай каўбасе.

І тады прыйдзецца спачатку зноў загадаць міністрам знайсці новыя рынкі збыту. Ну а пасля саступіць з такім выглядам, што мы нібыта і самыя гэтага хацелі. Нават, калі Расея вырашыць размясціць у нас ядзерную зброю. Вось тады пра нас успомняць усе. І загавораць пра нас не менш, чым пра Паўночную Карэю. Толькі ці трэба нам гэта?

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на студзень 2015 году

**1 студзеня**

95 гадоў таму (1920) – У мяст. Турэц (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Барыс Рагуля, дзеяч нацыянальнага руху ў 1940-ыя, кіраўнік Саюзу Беларускай Моладзі на Наваградчыне, намесьнік прэзыдэнта БЦР на Наваградзкую акругу (1944). Пасьля вайны дзеяч эміграцыі (Бельгія, Канада), віцэ-прэзыдэнт Рады БНР.

**2 студзеня**

105 гадоў таму (1910) – У в. Малая Альшанка (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Вацлаў Папуцэвіч (у эміграцыі Пануцэвіч), беларускі грамадзкі дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

65 гадоў таму (1950) – У Варшаве памёр Юзаф Ядкоўскі, польскі археолаг, гісторык, краязнавец, калекцыянер, музеязнавец. Нараджэнец Гародні.

**3 студзеня**

85 гадоў таму (1930) – У в. Дэгісі (Смургонскі р-н) нарадзіўся Канстанцін Іваноўскі, удзельнік беларускага антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях у 1949-50.

**5 студзеня**

205 гадоў таму (1810) – Памёр Казімір Рагоўскі, тэолаг-езуіт, філосаф, педагог. Вучыўся і працаваў у Слоніме, выкладаў у Наваградку.

**6 студзеня**

405 гадоў таму (1610) – Памёр Андрэй Волан (нар. у 1530 у маёнтку Біюцішкі, Ашмянскі р-н), беларускі грамадзкі дзеяч, філосаф, правазнавец, пісьменьнік. Пахаваны ў Біюцішках.

**7 студзеня**

Каляды (Раство Хрыстова) па юльянскім праваслаўным календары.

90 гадоў таму (1925) – У Варшаве памёр Марыян Абрамовіч, рэвалюцыянер-народнік, публіцыст, дзеяч культуры. Вывучаў на Наваградчыне беларускую мову.

**8 студзеня**

35 гадоў таму (1980) – У Беластоку памёр Канстанцін Кіслы, беларускі праваслаўны, грамадзка-культурны дзеяч, кампазітар і дырыжор. У пачатку 1930-ых жыў і дзеіў у Слоніме.

**10 студзеня**

215 гадоў таму (1800) – У м. Кулігоўшчына (Кобрыньскі р-н) нарадзіўся Адам Сузін, удзельнік вызвольнага руху, падарожнік. У 1819 скончыў Гарадзенскую гімназію.

11 студзеня

35 гадоў таму (1980) – Памёр Антон Ус, беларускі і расейскі грамадзка-культурны дзеяч. Нараджэнец в. Мішуковічы (Івейскі р-н).

**14 студзеня**

35 гадоў таму (1980) – Памёр Пятрусь Граніт (сапр. Іван Івашэвіч), беларускі паэт, педагог. Пахаваны на радзіме ў в. Зачэпічы (Дзятлаўскі р-н).

**15 студзеня**

130 гадоў таму (1885) – У Варшаве памёр Антон Адынец, паэт, філамат, перакладнік, выдавец. Нараджэнец Гяйстунаў (Ашмянскі р-н).

75 гадоў таму (1940) – Увядзеньне новага адміністацыйна-тэрытарыяльнага падзелу на далучанай да СССР тэрыторыі Заходняй Беларусі.

30 гадоў таму (1985) – У Гародні адчынены рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі (зь верас. 1989 – Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі).

**16 студзеня**

15 гадоў таму (2000) – У Гародні адбылася агульнабеларуская сустрэча ветэранаў нацыянальна- вызвольнага руху – вязьняў сталінскіх канцлягероў.

**20 студзеня**

110 гадоў таму (1905) – У Слуцку нарадзіўся (паводле інш. зьв. 25 студз.) Ян Пятроўскі, рэлігійны дзеяч, літаратар, выдавец, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстрыя, ЗША). Працаваў пастарам у Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н).

60 гадоў таму (1955) – У Гданьску памёр Лукаш Дзекуць-Малей, беларускі грамадзкі і рэлігійны дзеяч. Пахаваны на гданьскіх могілках. Нараджэнец Слоніму.

10 гадоў таму (2005) – Памёр Ян Новак-Езяранскі (паходзіў з Гарадзеншчыны), польскі грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, журналіст, які спрыяў беларускаму нацыянальнаму руху.

**22 студзеня**

125 гадоў таму (1890) – У в. Дзедзіна (Мёрскі р-н) нарадзіўся Ільдафонс Бобіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, выдавец. З 1923 працаваў пробашчам у Германавічах, у 1930-44 –у Іўі. Пахаваны ў Іўі каля касьцёлу.

**24 студзеня**

205 гадоў таму (1810) – У в. Гаўя (Івейскі р-н) нарадзіўся Уладзіслаў Брахоцкі, грамадзкі дзеяч, удзельнік паўстаньня 1863-64.

**25 студзеня**

125 гадоў таму (1890) – У в. Нясутычы (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Стагановіч, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, удзельнік БНС, эмігрант (Нямеччына, ЗША).

**26 студзеня**

25 гадоў таму (1990) – Беларуская мова Вярхоўным Саветам БССР была абвешчана ў Беларусі адзінай дзяржаўнай.

**27 студзеня**

125 гадоў таму (1890) – У в. Вераскава (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Філарэт Родзька, беларускі настаўнік, быў у войску Булак-Балаховіча, дзеяч эміграцыі (ЗША). Працаваў у Вераскаве і Наваградку.

**28 студзеня**

20 гадоў таму (1995) – У Англіі ў Лонданскім хосьпісе Сьвятога Крыстофера памёр Мар'ян Богуш-Шышка, беларуска-польскі мастак, педагог. Нараджэнец в. Трокенікі (Астравецкі р-н).

**31 студзеня**

10 гадоў таму (2005) – У Пінску памёр Кастусь Рамановіч, удзельнік падпольнага Саюзу Вызваленьня Беларусі ў Наваградку, вязень савецкіх канцлягераў. Нараджэнец в. Лозкі (Наваградзкі р-н).

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
снежань 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

